# Курапаты. Людзі і АМАП

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Вось што паведаміў відавочца падзеяў у Курапатах: «Калі ў 16.30 на ўкапаныя крыжы паехаў бульдозер, на вуліцы ўжо была амаль цемра, і ўсё тое, што рабілася далей, нагадвала нейкі фільм жахаў. Бульдозер, у цемры падобны на танк, з лязгатам гусеніц, сваім металічным каўшом пачаў трушчыць першыя два крыжы, быццам зносячы старыя могілкі. За ім, як пяхота падчас вайны, забяспечваючы прыкрыццё, ішлі міліцыянты і «людзі ў цывільным». Наперарэз бульдозеру кінуліся некалькі чалавек, але «пяхота» перахапіла іх і па глебе пацягнула ўбок. Адзін хлопец абхапіў крыж рукамі і нагамі і павіс на ім так, што яго не змаглі адарваць паасобку, а толькі адарваўшы ад зямлі разам з крыжам. Яго збілі нагамі і, надзеўшы кайданкі, пацягнулі ў варанок.

Людзей было занадта мала, каб супраціўляцца, а напалову п'яныя (адзін нават увесь час падаў) «людзі ў цывільным» усміхаліся, шырока разявіўшы раты».

Супраць абаронцаў Курапатаў міліцыя шырока выкарыстоўвала дубінкі і нервова-паралітычныя газы. Былі затрыманыя больш за 10 чалавек. Як паведаміла прэс-служба Маладога Фронту, сябры ўправы Настасся Карповіч, Сяржук Лісічонак і Аляксей Чарняеў былі збітыя і шпіталізаваныя.

Праз паўтары-дзве гадзіны ў Курапатах з'явіліся новыя абаронцы – але і новыя АМАПаўцы таксама. Той жа відавочца: «Каля сарака чалавек, злучыўшыся ў два шэрагі, спынілі бульдозеры і самазвалы. АМАП падаспеў хвілін праз пяць. Стаўшы клінам, яны пабеглі на абаронцаў і, разбіўшы ланцуг, пачалі спіхваць людзей з абрыва ў кювет. Унізе людзі ўставалі ўсе перапэцканыя, бо там з-за дажджу была сапраўдная мокрая куламеса з гліны. Тых, хто ўтрымаўся і не пакаціўся ўніз, білі палкамі і труцілі газам. Прэс-сакратара маладзёвага руху «Зубр» Аляксандра Атрошчанкава АМАПавец доўга прылюдна біў каленам па галаве. Прадстаўніка «Хартыі'97» Зміцера Бандарэнку дубінкамі адпаласавалі так, што назаўтра спіна была напалову сіняя. Пасля новых затрыманняў народ пачаў разыходзіцца».

Маладафронтаўцы адзначаюць: «Карная аперацыя рэжыму выразна паказала, што сённяшняя ўлада ў сутнасці сваёй сатанінская. Разбурэнне нацыянальнага некропаля з'яўляецца актам вандалізму і знявагі да трагічнай памяці свайго народа».

Амаль усю ноч з 8 на 9 лістапада ва ўрочышчы Курапаты ішлі працы. З ранку ў пятніцу былі адноўленыя некаторыя паламаныя і звезеныя ў невядомым напрамку крыжы. Аднак крыху пазней міліцыянты выставілі кардоны, якія перашкаджалі людзям патраніць у Курапаты.

Новыя спробы людзей спыніць правядзенне дарожнай будоўлі былі жорстка падаўленыя. У пятніцу міліцыянты затрымалі ўжо больш за 20 чалавек. Некалькі абаронцаў трапілі ў шпіталь са страсеннем мазгоў.

На дапамогу міліцыі прыйшлі і будаўнікі – вадзіцелі сталі засыпаць пяском з самазвалаў жывых людзей на насыпе. Як адзначаюць відавочцы, гэтым днём супрацьстаянне цягнулася некалькі гадзінаў.

У суботу, 10 лістапада, валанцёры зноў аднавілі ўсе крыжы. У Курапатах з'явіўся святар – прадстаўнік Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы Леанід Акаловіч, які асвяціў памятныя крыжы. У цырымоніі асвячэння ўзялі ўдзел больш за дзвесце чалавек, у тым ліку прадстаўнікі незарэгістраваных маладзёвых аб'яднанняў Малады Фронт, Беларуская партыя Свабоды і «Зубр», а таксама Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ, БНФ і грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мэмарыялу Курапаты». Усе дзеянні праводзіліся ў непасрэднай блізкасці ад ачаплення АМАПу, якое перашкаджала абаронцам Курапатаў падыходзіць блізка да дарогі.

У нядзелю, 11 лістапада, у Курапатах адбыўся хросны ход. Тым часам рабочыя працягвалі сваю працу па пашырэнні палатна кальцавой дарогі. Іх зноўку ахоўваў АМАП.

Сёння ж чакаюцца суды над затрыманымі абаронцамі Курапатаў. Іх абвінавачваюць у правядзенні незаконнага пікетавання. На лаве падсудных сёння мусяць апынуцца лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец, намеснік старшыні БНФ Вячаслаў Сіўчык і іншыя.

Дарэчы, некалькі працэсаў адбыліся ўжо ў мінулую пятніцу. Прысуды амаль аднолькавыя, розняцца толькі памеры штрафаў (ад 5 да 50 мінімальных заробкаў).

Відавочна, што ў сітуацыі з Курапатамі ўлады паводзяць сябе ганебна. Пры неабходнасці пашырэння кальцавой дарогі ўлада была абавязаная найперш вырашыць пытанне з помнікам ахвярам, ахоўнай зонай Курапацкага мемарыяла, мусіла правесці конкурс на памятны знак ушанавання памяці ахвяраў генацыду, прыцягнуць да абмеркавання гэтага грамадскасць. Усё зроблена наадварот, з дэманстрацыяй пагарды да грамадскасці, да ахвяраў, да продкаў. Курапаты сталіся палігонам, на якім улада прадэманстравала свой кірунак да таталітарызму, да забароны таго, што ёй не падабаецца. А ёй не падабаецца памяць пра сталінскі генацыд, пра палітычныя рэпрэсіі часоў савецкай імперыі. Хто цяпер паверыць уладным абяцанкам «лібералізацыі»? І што рабіць такой Беларусі ў еўрапейскіх структурах. Калі сённяшняя беларуская ўлада не хоча помніць трагедыю ўласнага народа, не вырашае такіх нацыянальна значных пытанняў, запрашаючы да гэтага народ, дык якую павагу яна можа мець сярод цывілізаваных краінаў? Толькі пагарду. А з боку свайго народа тым болей.

**Павел КРЫЛЬСКІ**









Фота Ул. ШЛАПАКА

## «Стратэгія для Беларусі»

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Менавіта старшыні БСДГ Станіслаў Шушкевіч, Партыі камуністаў Беларускай Сяргей Калякін ды АГП Анатоль Лябедзька навязуць у Вільню адобраную 9 лістапада КСАПП «Пакрокавую стратэгію для Беларусі».

Беларуская апазіцыя ў асобе КСАПП вылучае пяць патрабаванняў да афіцыйнага Мінска, пры выкананні якіх можа адбыцца змяненне статусу Беларусі ў ПА СЕ. Перш за ўсё палітычная апазіцыя вяртае да жыцця ідэю перамоўнага працэсу з уладамі пры пасярэдніцтве КНГ АБСЕ ды «парламенцкай тройкі» па вядомых чатырох умовах: дэмакратызацыя выбарчага заканадаўства, стварэнне атмасферы, вольнай ад страху, спыненне пераследу па палітычных матывах і вызваленне палітвязняў, доступ апазіцыі да дзяржаўных мас-медыя. На першым этапе апазіцыя паспрабуе дабіцца прымальных умоваў для ўдзелу ў выбарах у мясцовыя Саветы ў 2003 годзе і ў парламенцкіх выбарах. Як вядома, вядучыя апазіцыйныя партыі прызналі за неабходнае ўдзел у любых выбарчых кампаніях.

Больш за тое, КСАПП прапануе Палітычнаму камітэту стварыць роўныя ўмовы для працы ў еўрапейскіх структурах як для афіцыйнай дэлегацыі, так і для апазіцыі. Еўропе прапануецца не прызнаваць Нацыянальна сход за дэмакратычна абраны парламент, але падтрымліваць з ім кантакты.

Трэцім крокам на шляху да вяртання краіны ў Еўропу, паводле «Стратэгіі», мусіць стаць правядзене свабодных і дэмакратычных выбараў у мясцовыя Саветы ды парламент. І толькі тады ўжо магчымае паўнакроўнае супрацоўніцтва міжнародных структураў з мясцовымі Саветамі ды парламентам. Завяршыць працэс вяртання Беларусі ў дэмакратычную супольнасць маюць прэзідэнцкія выбары, якія мусяць прайсці ў адпаведнасці са стандартамі АБСЕ.

Апазіцыя плануе прадставіць «Пакрокавую стратэгію для Беларусі» на сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы ў студзені, а таксама на сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў лютым наступнага года.

**Рыгор БУЯН**

## Братка-беларус СНІД не прывязе!

Адміністрацыя расійскага горада Нарыльска высока ацэньвае маральны выгляд беларуса. Толькі грамадзянам нашай краіны аказаны высокі давер – права наведваць гэты запалярны горад і нават жыць у ім. Усе астатнія замежнікі з горада будуць дэпартаваныя.

Ад дня свайго заснавання Нарыльск быў «закрытым горадам». Справа ў тым, што калі ў трыццатых гадах мінулага стагоддзя геолагі знайшлі за Палярным кругам буйныя радовішчы каляровых металаў, то ўзводзіць горна-металургічны камбінат побач з радовішчамі былі накіраваныя зняволеныя ГУЛАГу. Яны ж адбудавалі ў 1935 годзе і сам Нарыльск – паселішча для здабытчыкаў стратэгічнай сыравіны. Толькі ў 1953 годзе гэтае паселішча стала горадам – зноў-такі закрытым. Жыхары Нарыльску здабываюць медзь, нікель, кобальт, золата, плаціну, паладый, срэбра і іншыя каштоўныя металы, а таксама вугаль. У горадзе, які, дарэчы, з'яўляецца адным з самых паўночных гарадоў свету, шмат абаронных прадпрыемстваў.

Аднак каля дзесяці гадоў таму на хвалі дэмакратызацыі Нарыльск, дзе жыве амаль 200.000 чалавек, адчынілі для наведвання замежнікамі. З таго часу ў горад перасялілася каля 15-20 тысяч неграмадзянаў Расіі – у асноўным, з былых савецкіх рэспублікаў.

Адміністрацыя Нарыльска палічыла, што наплыў замежнікаў стварыў вялікую небяспеку для здароўя жыхароў. Паводле медычнай статыстыкі, запалярны горад з'яўляецца лідэрам у Краснаярскім краі па тэмпах распаўсюджання СНІДУ і наркотыкаў. Тэма бяспекі і надзейнай засакрэчанасці рэжыму працы абаронных прадпрыемстваў цяпер амаль не ўзгадваецца.

Ужо з 25 лістапада Нарыльск зноў стане закрытым. Агенцтва РИА «Новости» паведаміла са спасылкай на дзяржаўную службу грамадзянскай авіяцыі міністэрства транспарту Расіі, што з гэтага дня спыняецца продаж авіяквіткоў у Нарыльск для замежнікаў.

Апроч таго, на нарадзе гарадскіх уладаў некалькі дзён таму было вырашана, што «ўсе замежныя грамадзяне далёкага і блізкага замежжа (апроч Беларусі), што не маюць расійскага грамадзянства, мусяць быць выселеныя з горада». Цяпер для наведвання Нарыльска спатрэбіцца атрымаць адмысловы дазвол Федэральнай службы бяспекі Расіі.

Як вынікае з пастановы нарыльскай адміністрацыі, толькі беларусы па-ранейшаму змогуць наведваць горад за Палярным кругам. Трэба разумець, у Нарыльску перакананыя, што ні СНІДу, ні наркотыкаў з Беларусі прывезці нельга. Ці яны спадзяюцца на беларускі імунітэт?

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



# Великобритания вводит чрезвычайное положение

*Правительство Великобритании намерено объявить в стране чрезвычайное положение. Этот шаг позволит ввести ряд решительных мер, направленных на защиту граждан от действий предполагаемых террористов, сообщает журнал* The Observer.

В течение ближайших 48 часов министр внутренних дел королевства Дэвид Бланкет представит на утверждение Нижней палаты парламента предписание, позволяющее полиции без суда и следствия выдворять за пределы страны всех подозрительных иностранцев. Ожидается, что еще через месяц в парламент поступит специальный законопроект, направленный на борьбу с терроризмом.

В качестве обоснования столь решительного шага в предписании Бланкета говорится о том, что теракты, совершенные в Нью-Йорке и Вашингтоне 11 сентября, свидетельствуют о реальной угрозе, направленной против жизни английских граждан. Предписание было выпущено меньше чем через сутки после того, как США предупредили своего союзника о намерении бин Ладена и возглавляемой им террористической организации «Аль-Каеда» нанести террористический удар по Великобритании.

Если парламент утвердит предписание министра, то на территории Великобритании будет приостановлено действие пятой статьи Европейской конвенции о защите прав человека, которая не разрешает интернировать подозреваемых без судебного разбирательства.

Кроме того, новое предписание позволит британской полиции задерживать на неопределенный срок въехавших в страну иностранных граждан, подозреваемых в причастности к терактам. А после того, как в силу вступит специальный антитеррористический закон, подозреваемых террористов будут задерживать на территории Великобритании даже в том случае, если они используют ее как транзитный пункт для перемещения в третью страну.

Подобные меры вводятся на территории Великобритании только во время войны или в случаях, когда государству угрожает явная опасность. По словам анонимных источников из Уайтхолла, на которых ссылается *The Observer*, в случае утверждения этих мер они не будут пересматриваться как минимум в течение года.

В последний раз интернированию за пределы Англии подвергались граждане Ирака, которые во время войны в Персидском заливе были заподозрены в связях с Саддамом Хусейном. Кроме того, эта мера действовала против террористов из Северной Ирландии, а также немцев во время Второй мировой войны. Однако впервые в истории Великобритании правительство идет на столь масштабное нарушение Европейской конвенции о защите прав человека.

Джон Уэдем, директор британской правозащитной организации *Liberty*, уже заявил, что намерен обжаловать решение своего правительства в Международном страсбургском суде по правам человека.

Между тем официальные представители Великобритании утверждают, что введение чрезвычайного положения носит формальный характер и не затронет интересов большинства жителей страны. На Даунинг-стрит рассчитывают, что антитеррористический законопроект успешно пройдет через обе палаты парламента уже к Рождеству.

## Колин Пауэлл хочет превратить Кабул в Западный Берлин

Если Северный альянс сумеет свергнуть режим талибов, его войска не должны входить в Кабул. С таким заявлением выступил госсекретарь США Колин Пауэлл.

По словам Пауэлла, жители Кабула боятся бойцов Северного альянса и не доверяют им. В связи с этим госсекретарь США предлагает придать афганской столице особый статус, подобный тому, каким по окончании Второй мировой войны обладал Западный Берлин.

«Мы сейчас размышляем об этом. Подобные вещи случались в истории многократно», – заявил Пауэлл.

Во время пребывания Северного альянса в Кабуле (1992-1996 годы) в ходе боев между различными группами боевиков были убиты около 50 тысяч афганцев.

Вопрос о необходимости формирования в Афганистане совместного правительства затрагивался и в пятницу в ходе беседы Джорджа Буша с премьер-министром Индии Аталом Бихари Вайпайи, сообщает *Associated Press*.

## Россия показала 200 новых самолетов

В Объединенных Арабских Эмиратах с 4 по 8 ноября действовал 7-й международный авиасалон «Дубаи-2001».

В нем принимали участие около 450 компаний из 33 стран. Около 50 компаний отказались от участия в авиасалоне после терактов в США 11 сентября, главным образом, из-за возникших у них финансовых проблем. Примерно 60 процентов представленных на авиасалоне экспонатов – гражданские самолеты, и около 40 процентов – военные. Из стран СНГ в салоне участвовали Россия, Белоруссия, Украина, Грузия и Азербайджан.

Россия привезла в Дубаи около 200 экспонатов, в том числе истребитель Су-30МКК, учебно-тренировочный самолет МиГ-АТ и модернизированный МиГ-21 в вариант МиГ-21093. Предполагается, что они совершат демонстрационные полеты.

Су-30МК – это новая модификация боевых истребителей семейства Су. Самолет оснащен современной системой вооружения, благодаря чему может использовать не только ракеты класса «воздух-воздух» малой и средней дальности, но и широкий спектр высокоточного оружия «воздух-поверхпость» с телевизионным, лазерным и радиолокационным наведением. Полная боевая нагрузка самолета увеличена до восьми тонн.

В новом МиГ-21093 устаревшее бортовое радиоэлектронное оборудование заменено на новое, позволяющее применять высокоточное оружие класса «воздух-поверхность». При этом боевая эффективность действий по воздушным целям повышается не менее, чем в восемь раз, по наземным целям – не менее чем в три раза, отметил представитель «Рособоронэкспорта».

На выставке также будут представлены боевые вертолеты нового поколения Ми-28НЭ и Ка-52, а также программы комплексной модернизации вертолетов Ми-35, Ми-8/Ми-17, обеспечивающие повышение боевой эффективности и круглосуточное использование. Кроме того, российские производители продемонстрируют новые разработки в области военной авиации, ПВО и космических систем.

Авиасалоны в Дубаи проводятся раз в два года, начиная с 1989 года. Он продлится до 8 ноября.



## Талибы подтвердили взятие Мазари-Шарифа войсками Северного альянса



В субботу утром руководство движения «Талибан» подтвердило взятие Мазари-Шарифа войсками Северного альянса. Информацию об отступлении талибов из города подтвердили и представители США.

Взятие Мазари-Шарифа является самым крупным успехом противников талибов за все время антитеррористической операции, начавшейся 7 октября. По словам главного редактора новостного агентства «Бахтар» Хенана Хемата, вполне вероятно, что войска Северного альянса заняли также и город Хайратан. Это крупнейший населенный пункт на афгано-узбекской границе. Контроль над Хайратаном дает возможность осуществлять наземные поставки военного имущества и гуманитарной помощи в Афганистан.

Анонимный источник в Пентагоне со ссылкой на доклады из Афганистана, сообщил корреспонденту *Associated Press*, что Мазари-Шариф полностью находится под контролем Северного альянса. При этом он указал на отсутствие официального подтверждения этой информации от командования антитеррористической группировки США. Представитель Пентагона не исключил возможность того, что Мазари-Шариф снова может оказаться в руках талибов в случае, если они сумеют найти силы и средства для контрнаступления.

Как заявил представитель генерала Рашида Дустума в Вашингтоне, в боях за Мазари-Шариф принимали участие специальные подразделения США и военнослужащие турецкой армии. В ходе телефонной беседы Дустум сообщил своему американскому представителю, что наступление на город происходило на двух фронтах приблизительно в одно и то же время. По словам узбекского генерала, его войска захватили в плен около 1.500 талибов, многие из которых дали согласие воевать на стороне Северного альянса.

Большую часть 200-тысячного населения Мазари-Шарифа составляют этнические таджики и узбеки. В основном представители именно этих национальностей сражаются в рядах антиталибской оппозиции.

## Бин Ладен: «Мы убиваем невинных»

*The Sunday Telegraph* объявила, что располагает видеозаписью, на которой Усама бин Ладен признает свою ответственность за теракты одиннадцатого сентября, сообщает *Ananova*.

Международный террорист заявил: «Если месть за смерть наших людей – это теракт, то история должна стать свидетельницей нашего терроризма. Башни-близнецы – это законные цели, так как они поддерживали экономику США. Да, мы убиваем невинных, и это правильно с точки зрения религии и логики. Буш и Блэр не понимают ничего, кроме языка силы. Каждый раз, когда они убивают кого-нибудь из нас, мы убиваем в ответ. Так достигается равновесие в терроре».

По мнению газеты, эта пленка, которую США и Великобритания распространят в среду, станет ключевым доказательством против бин Ладена.

Ранее запись, снятая в конце октября, в течение двух недель находилась у боевиков саудовского мультимиллионера, а затем еще некоторое время газета воздерживалась от сообщений о пленке. В видеопослании бин Ладен также угрожает Тони Блэру.

## Десять самых громких терактов за последние 30 лет

**1970 год**

Сентябрь. Террористы из организации «Освобождение Палестины» захватили пять самолетов, три из которых взорвали в Иорданской пустыне. Пассажиры отпущены.

**1972 год**

5 сентября. Группа палестинских террористов из организации «Черный сентябрь» врывается на территорию Олимпийской деревни в Мюнхене и берет в заложники израильскую команду. В перестрелке погибают все спортсмены и несколько террористов.

**1981 год**

13 мая. На площади Св. Петра в Риме Мехмет Али Агджа стреляет в упор в Иоанна Павла II.

**1983 год**

Взрывы посольства США в г.Бейруте (48 человек убиты и 120 ранены), казарм морских пехотинцев США и военнослужащих Франции в г.Бейруте (убиты 243 американца и более 50 французов), штаба израильских войск в г.Тире. Ответственность на себя взяла организация «Хезболлах».

**1984 год**

Взрыв грузовика со взрывчаткой на территории нового здания посольства США в Восточном Бейруте (25 человек убиты).

**1995 год**

9 апреля. Сектор Газа – террорист-самоубийца из организации «Палестинский исламский джихад» напал на пассажирский автобус. В результате взрыва погибли 8 человек и 50 ранены.

**1998 год**

7 августа. В посольствах США в Найроби (Кения) и Дар-эс-Саламе (Танзания) прогремели взрывы. В Найроби погибли 213 человек и ранены около 5 тысяч. В Дар-эс-Саламе погибли 11 человек и ранены 72.

**2000 год**

12 октября. Взрыв американского эсминца «Коул» в порту Адена (Йемен). 17 человек погибли, 39 получили ранения.

**2001 год**

1 июня. Взрыв в дискотеке «Дельфи» в Тель-Авиве. 22 человека убиты, более 100 ранены.

11 сентября. Пилоты-камикадзе на захваченных самолетах врезаются в небоскребы Всемирного торгового центра и здание Пентагона.

## Китай стал членом ВТО

В субботу после длившихся 15 лет переговоров Китай вступил во Всемирную торговую организацию. Решение о приеме – результат долгих консультаций Пекина с другими членами организации об открытии китайских рынков для иностранных товаров и услуг.

Однако это событие произошло на фоне общего замедления мировой экономики и новой волны дискуссий о самой сути мировой торговли и роли ВТО.

На сессии Всемирной торговой организации в столице Катара Дохе, где и состоялась церемония принятия Китая в ВТО, министры 142 стран пытаются выработать новые подходы к разрешению торговых споров. В основе всех дебатов – различные взгляды на систему мировой торговли, которых придерживаются развивающиеся и развитые страны.

Предполагается, что Китай станет главным проводником интересов «третьего мира». Генеральный секретарь ООН Кофи Аннан назвал вступление Китая в ВТО «событием исторического значения».

Пекин надеется, что вступление в ВТО закрепит успехи китайских экономических реформ, обеспечивших за 20 лет успехи национальной экономики и приток иностранных инвестиций.

Однако соседи Китая боятся, что, увеличив объемы экспорта, он лишит их рынков сбыта. Глава ВТО Майк Мур в ответ на эти опасения сказал, что, конечно, конкурировать с Китаем будет трудно, но вся суть приема КНР в организацию заключается в том, чтобы заставить Пекин играть по правилам и решать спорные вопросы в рамках организации.

Индустриально развитые страны, проведшие полтора десятилетия в переговорах с Пекином об открытии китайских рынков сельского хозяйства, финансовых услуг и телекоммуникаций, надеются, что Китай будет придерживаться своих обещаний.

Через сутки после приема Китая в ВТО Тайвань также станет членом организации, но в качестве «специальной таможенной зоны».

Китай считает остров отколовшейся провинцией и рассчитывает, что рано или поздно территория войдет в состав КНР. Пекин, что примечательно, обычно отказывается от работы в тех международных организациях, куда Тайвань входит как независимое государство, и неизменно откликается протестами на действия государств, которые хоть в чем-то признают суверенитет Тайваня.

Китай настаивал на том, чтобы его приняли в организацию раньше Тайваня. Не исключено, что Пекин пойдет на дипломатический демарш во время формальной процедуры подписания документов о членстве. По правилам ВТО, любое решение принимается на основе консенсуса, то есть любая страна может заблокировать принятие того или иного решения.

Китай, однако, станет полноправным членом ВТО лишь через 30 дней после того, как решение о вступлении будет одобрено парламентом страны.

# В США скончался писатель Кен Кизи

Писатель Кен Кизи, автор знаменитого «Полета над гнездом кукушки» и вдохновитель знаменитого «психоделического автопробега» в 60-х годах, скончался от рака печени в возрасте 66 лет в штате Орегон, США.

«Полет над гнездом кукушки», вышедший в 1962 году, был первой книгой Кизи и немедленно сделал его знаменитостью. Это – история пациента по имени Макмерфи, запертого в психушке и протестующего против тамошних порядков. Несмотря на союз с молчаливым гигантом-индейцем по имени Вождь Бромден – восстание Макмерфи в результате заканчивается поражением

Этот роман стал настольной книгой для всех молодых бунтарей, отождествлявших себя с Макмерфи, а государство – с психбольницей и тюремными решетками. Вторая книга Кизи – «Иногда приходит великолепная идея» получила такое же широкое признание в 1964 году. «Тот, кто хочет составить представление о тех временах, должен почитать Кизи, – пишет в «Лос-Анджелес таймс» Чарльз Боуден. – И если только нам крупно не повезет, и та пора не вернется, Кизи придется читать и через сто лет».

Тогда же, в 1964-ом, Кизи и несколько его товарищей, купив старый школьный автобус и перекрасив его из официально-желтого цвета в «кислотную» пестроту, отправилась по американским городам и весям.

Кизи открыл для широкой аудитории ставших ныне культовыми «Грейтфул дэд». Психоделическая одиссея была описана впоследствии в книге Тома Вулфа «Электропрохладительный кислотный тест».

Имя Кизи осталось на слуху благодаря невероятному успеху фильма, снятого по его первой книжке. «Полет над гнездом кукушки» с Джеком Николсоном в роли Макмерфи получил в 1974 году четыре Оскара сразу – за лучший фильм, режиссерскую работу, за мужскую и женскую роль. Кизи, правда, подал на продюсеров картины в суд – за то, что они отобрали роль рассказчика у Вождя Бромдена.




Следующая крупная книга – «Песня моряка» – появилась на свет только в 1992 году. В одном из интервью в 1990 году Кизи признался, что слава не помогала ему писать. «Известность мешает писателю. Трудно наблюдать, когда за тобой самим наблюдают».

В девяностых Кизи переехал в Орегон и стал преподавать литературу в университете, где когда-то был студентом.

Его класс произвел на свет коллективное творение «Пещеры», а сам Кизи с большой гордостью указывал в списке своих произведений книжку «Маленький бельчонок Трикер и большой медведь Дабл», написанную на основе сказки, когда-то рассказанной ему бабушкой. Книга сразу стала детской классикой.

BBC

# Праект Акту аб дэмакратыі ў Беларусі

*Заканчэньне, пачатак на стар. 1, 2*

**Разьдзел 5. Санкцыі супраць рэжыму Лукашэнкі**

(a) УЖЫВАНЬНЕ ЗАХАДАЎ. – Санкцыі, апісаныя ў гэтым разьдзеле і ў разьдзелах 6, 8 і 9, будуць ужывацца ў дачыненьні да Беларусі, пакуль Прэзыдэнт ня вырашыць і не засьведчыць перад адпаведнымі камітэтамі Кангрэсу, што ўлады Беларусі зрабілі значны прагрэс у выкананьні ўмоваў, апісаных у падразьдзеле (b).

(b) УМОВЫ. – Згаданыя ў падразьдзеле (a) умовы гэткія:

(1) Вызваленьне ўсіх асобаў, якія былі зьняволеныя за іх палітычныя погляды.

(2) Адкліканьне ўсіх палітычна матываваных судовых абвінавачаньняў супраць усіх дзеячоў апазыцыі.

(3) Прадстаўленьне поўнай справаздачы аб тых лідэрах апазыцыі і журналістах, улучна зь Віктарам Ганчаром, Анатолем Красоўскім, Юрыем Захаранкам і Зьмітром Завадзкім, якія зьніклі пры таямнічых абставінах; пакараньне ўсіх адказных за гэтыя зьнікненьні.

(4) Спыненьне ўсіх формаў перасьледу і рэпрэсіяў супраць незалежных сродкаў масавай інфармацыі, няўрадавых арганізацыяў і палітычнай апазыцыі.

(5) Правядзеньне свабодных і справядлівых прэзыдэнцкіх і парлямэнцкіх выбараў.

(c) МІЖНАРОДНЫЯ ФІНАНСАВЫЯ ЎСТАНОВЫ. – Міністэрства Фінансаў Злучаных Штатаў дасьць рэкамэндацыі сваім выканаўчым дырэктарам у міжнародных фінансавых установах выступаць і галасаваць супраць любога выдзяленьня гэтымі ўстановамі любой фінансавай дапамогі любога віду (улучна з тэхнічнай дапамогай і грантамі) Ураду Беларусі, за выключэньнем пазыкаў і дапамогі, неабходных для забесьпячэньня асноўных гуманітарных патрэбаў.

(d) ВЫЗНАЧЭНЬНЕ МІЖНАРОДНЫХ ФІНАНСАВЫХ УСТАНОВАЎ. – У гэтым разьдзеле пад тэрмінам «міжнародныя фінансавыя ўстановы» разумеюцца Міжнародны Валютны Фонд, Міжнародны Банк Рэканструкцыі і Разьвіцьця, Міжнародная Асацыяцыя Разьвіцьця, Міжнародная Фінансавая Карпарацыя, Шматбаковае Агенцтва Гарантыі Інвэстыцыяў і Эўрапейскі Банк Рэканструкцыі і Разьвіцьця.

**Разьдзел 6. Блякаваньне беларускіх актываў у Злучаных Штатах**

(a) БЛЯКАВАНЬНЕ АКТЫВАЎ. – Гэтым Актам блякуецца ўся маёмасьць і працэнты з маёмасьці, у тым ліку ўсе гандлёвыя, прамысловыя або абслуговыя прадпрыемствы або гаспадарчыя аб'екты, якія цалкам або часткова належаць Ураду Беларусі або любому прадстаўніку найвышэйшага кіраўніцтва Беларусі і знаходзяцца або апынуцца ў будучыні на тэрыторыі Злучаных Штатаў, або якія знаходзяцца або апынуцца ў будучыні пад кантролем або ў валоданьні асобаў Злучаных Штатаў, улучна зь іх замежнымі філіяламі.

(b) АЖЫЦЬЦЯЎЛЕНЬНЕ ПАЎНАМОЦТВАЎ. – Міністар фінансаў, кансультуючыся зь дзяржаўным сакратаром, будзе прадпрымаць згаданыя дзеяньні, у тым ліку выдаваць распараджэньні, загады, дырэктывы, пастановы, інструкцыі і ліцэнзіі, а таксама ўжываць усе паўнамоцтвы, нададзеныя Прэзыдэнту на падставе Акту аб надзвычайных міжнародных эканамічных паўнамоцтвах, калі гэта будзе неабходна для выкананьня падразьдзелу (a).

(c) ЗАБАРОНЕНЫЯ ПЕРАЛІЧЭНЬНІ. – Банкавыя пералічэньні, забароненыя на моцы падразьдзелу (b), улучаюць у сябе пералічэньні і пераводы любой маёмасьці або любыя трансакцыі, зьвязаныя зь пераводам усяго, што можа мець эканамічную вартасьць, любой асобай Злучаных Штатаў Ураду Беларусі або любой фізычнай або юрыдычнай асобе, якія дзейнічаюць ад імя Ўраду Беларусі, або падуладнай гэтаму Ўраду або кантраляванай ім непасрэдна або ўскосна, або любому іншаму прадстаўніку найвышэйшага кіраўніцтва Беларусі.

(d) АПЛАТА ВЫДАТКАЎ. – Усе выдаткі, зьвязаныя з блякаваньнем і ўтрыманьнем маёмасьці, заблякаванай у адпаведнасьці з падразьдзелам (a), будуць ускладзеныя на ўладальнікаў або апэратараў гэткай маёмасьці, пры гэтым выдаткі ня будуць аплочаныя з блякаваных фондаў.

(e) ЗАБАРОНЫ. – Наступныя дзеяньні будуць забароненыя ад дня ўступленьня ў дзеяньне гэтага Акту:

(1) Экспарт любому суб'екту, прыналежнаму, кантраляванаму або кіраванаму непасрэдна або ўскосна Ўрадам Беларусі, любых тавараў, тэхналёгіяў або паслугаў, як–

(A) са Злучаных Штатаў;

(B) калі пры гэтым неабходнае атрыманьне ад Фэдэральнага агенцтва ліцэнзіі на экспарт; гэтак і

(C) зьвязаны з выкарыстаньнем зарэгістраваных у Злучаных Штатах караблёў або самалётаў, або любая дзейнасьць, што спрыяе або разьлічаная на спрыяньне такому экспарту.

(2) Выкананьне любой асобай Злучаных Штатаў любых кантрактаў, у тым ліку фінансавых, скіраваных на падтрымку прамысловых, гандлёвых або абслуговых прадпрыемстваў, кіраваных, кантраляваных Урадам Беларусі або прыналежных яму.

(f) ВЫКЛЮЧЭНЬНІ. – Насуперак усім іншым палажэньням гэтага разьдзелу, гэты разьдзел не датычыць –

(1) дапамогі, прадугледжанай у разьдзелах 3 і 4 гэтага Акту;

(2) матэрыялаў, апісаных у разьдзеле 203(b)(3) Акту аб надзвычайных міжнародных эканамічных паўнамоцтвах; або

(3) матэрыялаў, дасланых у Беларусь у якасьці гуманітарнай дапамогі.

(g) ЮРЫДЫЧНАЕ ТЛУМАЧЭНЬНЕ. – Гэтым Актам не забараняюцца любыя кантракты або іншыя фінансавыя трансакцыі зь любымі прыватнымі асобамі або няўрадавымі арганізацыямі і фірмамі ў Беларусі.

**Разьдзел 7. Забарона ўезду ў Злучаныя Штаты беларускім афіцыйным асобам**

Кангрэс лічыць, што Прэзыдэнту належыць ужыць свае паўнамоцтвы ў адпаведнасьці з разьдзелам 212(f) Акту аб іміграцыі і грамадзянстве (Зб. Зак. ЗША, 8, 1182(f)) і часова пазбавіць права на ўезд у Злучаныя Штаты любога замежнага грамадзяніна, які–

(1) займае пасаду ў найвышэйшым кіраўніцтве Беларусі; або

(2) зьяўляецца сужэнцам, непаўнагадовым дзіцём або прадстаўніком асобы, якой забаронены ўезд на падставе параграфу (1).

**Разьдзел 8. Забарона стратэгічнага экспарту ў Беларусь**

Кампутары, праграмнае забесьпячэньне, тавары, прызначаныя для вытворчасьці або абслугоўваньня кампутараў, тэхналёгіі, прызначаныя для вытворчасьці або абслугоўваньня кампутараў, або любыя іншыя тавары ці тэхналёгіі ня могуць быць экспартаваныя Ўраду Беларусі або для ўжытку Ўраду Беларусі або гэткіх структураў гэтага ўраду:

(1) Войска.

(2) Міліцыі.

(3) Сыстэмы турмаў.

(4) Службаў нацыянальнай бясьпекі.

**Разьдзел 9. Забарона на пазыкі і інвэстыцыі**

(a) ФІНАНСАВАНЬНЕ ЎРАДАМ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ. – Ніякія пазыкі, крэдытныя гарантыі, страхоўкі, фінансаваньне або іншыя віды фінансавай дапамогі ня могуць быць выдзеленыя Ўраду Беларусі ніякім урадавым агенцтвам Злучаных Штатаў (у тым ліку Экспартна-Імпартным Банкам і Карпарацыяй Замежнага Прыватнага Інвэставаньня).

(b) ГАНДАЛЬ І РАЗЬВІЦЬЦЁ. – Ніякія выдзеленыя законам сродкі ня могуць быць прызначаныя на дзейнасьць Агенцтва Гандлю і Разьвіцьця ў Беларусі або для Беларусі.

(c) ДЗЕЯНЬНІ ТРЭЦЯЙ КРАІНЫ. – Кангрэс заклікае дзяржаўнага сакратара заахвоціць усе іншыя краіны, асабліва краіны Эўропы, прыпыніць усе іх праграмы падтрымкі Ўраду Беларусі, падобныя да апісаных у падразьдзелах (a) і (b), у тым ліку праграмы пераразьмеркаваньня сплаты запазычанасьцяў гэтага ўраду пры больш спрыяльных умовах.

(d) ЗАБАРОНА ПРЫВАТНАГА КРЭДЫТАВАНЬНЯ. – Ніякая асоба Злучаных Штатаў ня можа выдаць або зацьвердзіць ніякую пазыку або нейкае іншае крэдытаваньне непасрэдна або ўскосна Ўраду Беларусі або любой карпарацыі, кампаніі ці іншай арганізацыі, якая належыць Ураду Беларусі, кіруецца або кантралюецца ім.


Фота Ул. Шлапака

**Разьдзел 10. Адмова ў стасаваньні абагульненай сыстэмы спрыяньня (асп)**

(a) ВЫЯЎЛЕНЫ ФАКТ. – Кангрэс выявіў, што Ўрад Беларусі не жадае паважаць міжнародна прызнаныя правы працоўных.

(b) АДМОВА Ў ЛЬГОТАХ ПАВОДЛЕ АСП. – Кангрэс ухваляе пастанову Ўраду Злучаных Штатаў адмовіць Беларусі ў падатковых льготах на падставе часткі V Закону аб гандлі 1974 году (Абагульненая Сыстэма Спрыяньня).

**Разьдзел 11. Шматбаковыя санкцыі**

Кангрэс лічыць, што Прэзыдэнту належыць працягваць спробы каардынацыі зь іншымі краінамі, асабліва краінамі Эўропы, шырокамаштабнай шматбаковай стратэгіі, скіраванай на дасягненьне мэтаў гэтага Акту, у тым ліку пры неабходнасьці заахвочваць іншыя краіны прымаць захады, падобныя да апісаных у гэтым Акце.

**Разьдзел 12. Уласнасьць на дыпляматычную і консульскую маёмасьць і яе выкарыстаньне**

Кангрэс лічыць, што калі недэмакратычны і нелегітымны Ўрад Беларусі ўступіць у саюз з Расейскай Фэдэрацыяй, што прывядзе да страты сувэрэнітэту Беларусі, Злучаныя Штаты неадкладна пазбавяць усіх прывілеяў і імунітэту, прадугледжаных Венскай канвэнцыяй аб дыпляматычных дачыненьнях, пэрсанал і маёмасьць Ураду Беларусі і запатрабуюць неадкладнага выезду гэтага пэрсаналу са Злучаных Штатаў.

**Разьдзел 13. Справаздачнасьць**

(a) АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ. – Не пазьней, чым праз 90 дзён пасьля ўступленьня ў дзеяньне гэтага Акту, і кожны год пасьля гэтага Прэзыдэнт будзе падаваць справаздачу адпаведным камітэтам Кангрэсу наконт –

(1) дапамогі і тавараў, атрыманых Беларусьсю ад іншых замежных краінаў за папярэдні 12-месячны пэрыяд;

(2) продажу Беларусьсю зброі і зьвязаных са зброяй тэхналёгіяў за гэты 12-месячны пэрыяд;

(3) дачыненьняў паміж рэжымам Лукашэнкі і Ўрадам Расейскай Фэдэрацыі;

(4) асабістых актываў і маёмасьці Аляксандра Лукашэнкі ды іншых высокапастаўленых кіраўнікоў Ураду Беларусі.

(b) ЭЛЕМЭНТЫ СПРАВАЗДАЧЫ. – Кожная справаздача, згаданая ў падразьдзеле (a), будзе зьмяшчаць гэткія элемэнты, у залежнасьці ад аб'ёму вядомай інфармацыі за справаздачны пэрыяд –

(1) апісаньне ўсёй дапамогі, у тым ліку гуманітарнай, перададзенай Ураду Беларусі замежнымі ўрадамі і міжнароднымі ўстановамі;

(2) апісаньне гандлю Беларусі з замежнымі краінамі, у тым ліку пералік галоўных гандлёвых партнэраў Беларусі і аб'ём гэткага гандлю;

(3) апісаньне закончаных або выконваных супольных праектаў замежных грамадзянаў, зьвязаных з аб'ектамі ў Беларусі;

(4) пералік краінаў, якія закупляюць або закупілі ў Беларусі зброю або боепрыпасы, або ўступілі з Урадам Беларусі ў пагадненьні ваеннага характару, у тым ліку –

(A) апісаньне ваенных прыпасаў, абсталяваньня або іншых матэрыяльных сродкаў, прададзеных, перададзеных як бартэр або абмененых паміж Беларусьсю і гэткімі краінамі; і

(B) сьпіс тавараў, паслугаў, крэдытаў або іншых відаў кампэнсацыі, атрыманых Урадам Беларусі ўзамен за ваенныя прыпасы, абсталяваньне або матэрыяльныя сродкі.

**Разьдзел 14. Пазыцыя Кангрэсу**

Гэтым самым Кангрэс –

(1) выказвае сваю падтрымку тым людзям у Беларусі, хто імкнецца –

(A) спрыяць пашырэньню дэмакратыі і прынцыпаў прававой дзяржавы, умацоўваць незалежнасьць і сувэрэнітэт Беларусі; і

(B) спрыяць яе інтэграцыі ў эўрапейскую супольнасьць дэмакратычных дзяржаваў;

(2) выказвае сур'ёзную занепакоенасьць зьнікненьнем Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Юрыя Захаранкі, Зьмітра Завадзкага ды іншых дзеячоў апазыцыі і журналістаў;

(3) заклікае рэжым Лукашэнкі спыніць перасьлед палітычных апанэнтаў і вызваліць тых, хто, як Андрэй Клімаў, быў зьняволены за супраціў рэжыму;

(4) заклікае рэжым Лукашэнкі паважаць фундамэнтальныя свабоды слова, выказваньня, сходаў, асацыяцыяў, мовы і рэлігіі;

(5) заклікае рэжым Лукашэнкі дазволіць правядзеньне парлямэнцкіх і прэзыдэнцкіх выбараў, якія б былі свабодныя і справядлівыя і поўнасьцю адпавядалі б міжнародным стандартам;

(6) заклікае Урад Расеі, Дзяржаўную Думу і Савет Фэдэрацыі спыніць падтрымку, у тым ліку фінансавую, рэжыму Лукашэнкі і ў поўнай меры паважаць сувэрэнітэт і незалежнасьць Рэспублікі Беларусь;

(7) заклікае Ўрад Беларусі вырашыць працяглы канстытуцыйны і палітычны крызыс шляхам правядзеньня свабодных, справядлівых і празрыстых выбараў пры выкананьні гэткіх патрабаваньняў Арганізацыі Бясьпекі і Супрацоўніцтва ў Эўропе (АБСЭ), сябрам якой зьяўляецца Беларусь –

(A) забясьпечыць захаваньне правоў чалавека;

(B) пакласьці канец цяперашняй атмасфэры страху;

(C) даць апазыцыі неабходны доступ да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі;

(D) зьмяніць выбарчае заканадаўства, зрабіўшы яго больш дэмакратычным;

(E) распачаць сапраўдныя перамовы з апазыцыяй;

(F) надзяліць парлямэнт рэальнай уладай;

(8) заклікае іншыя ўрады адмовіцца ўжываць у якасьці дыпляматычных рэзыдэнцыяў або дзеля любых іншых мэтаў памяшканьні, забраныя рэжымам Лукашэнкі ў беларускай палітычнай апазыцыі;

(9) заклікае міжнародную супольнасьць, у тым ліку Ўрад Расеі, адмовіцца ратыфікаваць або прызнаваць любыя дамовы, падпісаныя Аляксандрам Лукашэнкам або любым іншым службоўцам ягонага ўраду;

(10) высока ацэньвае дэмакратычную апазыцыю Беларусі за яе адданасьць свабодзе, за адвагу перад жорсткімі рэпрэсіямі рэжыму Лукашэнкі і за еднасьць і супрацоўніцтва розных палітычных партыяў і няўрадавых арганізацыяў, выяўленыя падчас парлямэнцкіх выбараў 2000 году і прэзыдэнцкіх выбараў 2001 году, і заклікае дэмакратычную апазыцыю Беларусі захоўваць надалей гэтую еднасьць і супрацоўніцтва ў намаганьні пакласьці канец Лукашэнкавай дыктатуры.

**Разьдзел 15. Вызначэньні**

У гэтым Акце:

(1) НАЙВЫШЭЙШАЕ КІРАЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ. – У тэрмін «найвышэйшае кіраўніцтва Беларусі» уключаюцца –

(A) прэзыдэнт Беларусі, прэм'ер-міністар, віцэ-прэм'еры, міністры ўраду і віцэ-міністры;

(B) старшыня Нацыянальнага Банку Беларусі;

(C) службоўцы Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі Беларусі, міліцыі і любых іншых рэпрэсіўных органаў;

(D) любыя службоўцы Ўраду Беларусі, якія маюць дачыненьне да здушэньня свабоды ў Беларусі, у тым ліку судзьдзі і пракуроры;

(E) любыя службоўцы Ўраду Беларусі, непасрэдна прызначаныя Аляксандрам Лукашэнкам;

(F) службоўцы прэзыдэнцкай адміністрацыі.

(2) ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ. – Тэрмін «Злучаныя Штаты» азначае штаты Злучаных Штатаў, акругу Калюмбія і ўсе іншыя садружнасьці, залежныя тэрыторыі і валоданьні Злучаных Штатаў.

(3) АСОБА ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ. – Тэрмін «асоба Злучаных Штатаў» азначае ўсіх рэзыдэнтаў або грамадзянаў Злучаных Штатаў (апрача паасобных рэзыдэнтаў за межамі Злучаных Штатаў, нанятых на працу некім іншым апрача асобаў Злучаных Штатаў), усе мясцовыя фірмы (у тым ліку ўсе замежныя фірмы, што стала дзейнічаюць у Злучаных Штатах) і ўсе замежныя даччыныя фірмы або філіялы (у тым ліку тыя, што стала дзейнічаюць за мяжою) усіх мясцовых фірмаў, якія фактычна кантралююцца такімі мясцовымі фірмамі, у адпаведнасьці з распараджэньнямі Прэзыдэнта.

**Радыё «Свабода»**

# Неміласэрнае будаўніцтва

*Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ атрымала адразу некалькі цікавых пасланняў на адну і тую ж тэму. У іх паведамляецца пра некаторыя дэталі таго, якім чынам у Мінску будуецца Дом міласэрнасці.*

Узводзіць яго праваслаўнай царкве дапамагаюць сталічныя гарадскія ўлады. І вось якім спосабам. Па мінскіх фірмах і прадпрыемствах быў разасланы ліст такога зместу (падаем на мове арыгіналу): «Минский городской исполнительный комитет обращается к Вам с убедительной просьбой об оказании содействия в возведении одного из важнейших социальных объектов.

В текущем году в городе Минске завершается строительство Дома милосердия, являющегося уникальным социальным учреждением, соединившим в себе функции обслуживания престарелых и инвалидов, медицинского центра и православного храма.

В соответствии с поручением Президента Республики Беларусь городские службы и строительные организации активно включились в выполнение необходимого комплекса работ по данному объекту. Для окончания строительства необходима сумма, эквивалентная 3,2 млн. долларов США.

В целях обеспечения ввода в эксплуатацию Дома милосердия в установленные сроки Минский городской исполнительный комитет просит Вас оказать помощь в его финансировании в сумме... (для кожнага адрасата ў гэтым месцы ўказваецца пэўная сума. – **К.М.**)».

Далей ідуць нумары рахункаў для пералічэння грошай беларускімі рублямі, расійскімі, нямецкімі маркамі, доларамі і ў еўра. Перавод іх павінен суправаджацца паметкай «Добровольные пожертвования на строительство Дома милосердия». Подпіс пад лістом можа быць у адных выпадках мінскага мэра Міхаіла Паўлава (ён, дарэчы, ёсць старшынём апякунскай рады па будаўніцтве Дома міласэрнасці), у другіх – ягонага намесніка Валянціна Байдака.

Гэты мінгарвыканкамаўскі ліст толькі спраўджвае даўнія чуткі пра тое, як беларускія ўлады прызвычаіліся спаганяць разнастайныя «ахвяраванні». Можна ўявіць сабе, што будзе, калі дырэктар якой фірмы не адрэагуе як след на такую «убедительную просьбу» і не пералічыць запрошаную суму грошай? Санэпідэмстанцыі, падатковая... А сумы прастаўляюцца ў згаданых лістах самыя розныя – у сярэднім 4-8 тысяч долараў. Такі вось рабунак, такая вось зусім не міласэрнасць. І лішне казаць, што невядома, па якіх крытэрыях вызначалася сума набору, і што для многіх фірмаў выдаткоўванне падобных вялікіх сродкаў проста непадымнае. Але напрыканцы ліста ёсць заўвага: «заранее благодарны в оказании любой возможной помощи». Гэта значыць, відаць, што гандаль, як той казаў, дарэчны.

Што да самога гэтага Дома міласэрнасці, то ён узводзіцца пад патранажам патрыярха ўсёй Русі Аляксія II, дзяржсакратара Саюза Беларусі і Расіі Паўла Барадзіна і прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Апошні ў лютым гэтага года наведваў будоўлю і сказаў, што для яе варта было б прыцягнуць сродкі прадпрымальнікаў. Так што Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт (на то і выканаўчы) дзейнічаў нібыта з вышэйшае санкцыі.

Падчас таго прэзідэнцкага візіту было заяўлена, што будаўніцтва Дома міласэрнасці мусіць быць скончана да 1 верасня 2001 года. Аднак, як бачым, гэтая дата здачы аб'екта пратэрмінавалася. Такім чынам, «городские службы и строительные организации» ўсё ж такі не зусім «активно включились в выполнение необходимого комплекса работ». Цяпер адкрыццё ўстановы плануецца пасля Новага года.

Дом міласэрнасці ўзводзіцца на Старабарысаўскім тракце каля станцыі метро «Усход» на плошчы ў паўдзесятка гектараў у форме крыжа. На гэтым месцы калісьці збіраліся пабудаваць заапарк, потым новы будынак Нацыянальнай бібліятэкі. Мяркуецца, што ў Доме міласэрнасці будуць размяшчацца прытулак для пажылых людзей, сіротаў і дзяцей-інвалідаў, царква, сталоўка для бедных і бадзяжных на 1.000 ратаў і зімовы сад.

Няма чаго сказаць, справа добрая. Але паўстае пытанне, каму будзе належаць Дом міласэрнасці. Судзячы па ўсім – праваслаўнай царкве. Па чутках, яна збіраецца ў гэтым шматфункцыянальным комплексе шмат плошчы адвесці пад свой адміністрацыйны апарат. Калі так, то гэта стане яшчэ адным непрыхаваным доказам таго, што ў Беларусі праваслаўная царква паступова набывае негалосны статус дзяржаўнай. Як інакш можна расцаніць удзел беларускіх свецкіх уладаў, прычым больш чым сумніўны, у фінансаванні праваслаўных аб'ектаў?

А мінскім бізнесоўцам тым часам варта рыхтавацца да новых набораў. У Мінгарвыканкама і праваслаўнай царквы маецца новая ідэя – узвядзенне ў кожным раёне сталіцы святой крыніцы...

**Кірэй МАНУЙЛА**

Мінгарвыканкам

МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
пр. Ф. Скарыны, 8; 220050 г. Мінск
тэл. (017) 220-64-88, факс (017) 227-68-66
Р/р 3730201040010 у гараперацыі Белбізнесбанка г. Мінска, код 764

МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
пр. Ф. Скорины, 8; 220050 г. Минск
тел. (017) 220-64-88, факс (017) 227-68-66
Р/с 3730201040010 в горднрекции Белбизнесбанка г. Минска, код 764

18.10.01 №
На № ___ от ___

Руководителю предприятия

Уважаемый

Минский городской исполнительный комитет обращается к Вам с убедительной просьбой об оказании содействия в возведении одного из важнейших социальных объектов.

В текущем году в городе Минске завершается строительство Дома милосердия, являющегося уникальным социальным учреждением, соединившим в себе функции обслуживания престарелых и инвалидов, медицинского центра и православного храма.

В соответствии с поручением Президента Республики Беларусь городские службы и строительные организации активно включились в выполнение необходимого комплекса работ по данному объекту. Урегулированы вопросы сопровождения строительства со стороны Мингорисполкома и Всесвятского прихода.

В целях обеспечения ввода в эксплуатацию Дома милосердия в установленные сроки Минский городской исполнительный комитет просит Вас оказать помощь в его финансировании на сумму эквивалентную 3Г тыс.долл.США.

Заранее благодарны в оказании любой возможной помощи.

Наш р/с №3701000000028 в Оперу АСБ «Беларусбанк», получатель финансовое управление Мингорисполкома, УНН – 100690830, код 795 (с пометкой «Добровольное пожертвование на строительство Дома милосердия»).

С уважением,

Председатель попечительского совета по строительству Дома милосердия – Председатель исполкома М.Я.Павлов

Фота Ул. ШЛАПАКА

Як сведчаць фотаздымкі, будынак Дома міласэрнасці гатовы. Больш за тое – выглядае шыкоўна. Але «ахвяраванняў» усё мала! Можа яны не для тых, хто мае патрэбу ў міласэрнасці?

# Укрепить, а не потопить ВТО

**Джордж СОРОС,**
**директор Института «Открытое общество» и председатель правления Фонда Сороса**

*Мало кто сомневается в пользе международной торговли. И поскольку мировые рынки требуют наличия международных учреждений, способных их поддержать, Всемирная торговая организация (ВТО) действительно является чрезвычайно полезной во многих отношениях и самой развитой международной организацией.*

Но экономические неурядицы последнего десятилетия, вкупе с отсутствием адекватной сети по обеспечению социальной безопасности в развивающихся странах, породили жуткое возмущение против глобализации. Поскольку государства-участники ВТО готовились к встрече в Катаре в минувшую пятницу, то главной мишенью противников глобализации стала ВТО. Их цель «сократить или потопить ВТО» является ложной.

ВТО, как и все другие организации, имеет свои недостатки. Но главные возражения не могут быть адресованы самой ВТО. Задача ВТО состоит в том, чтобы установить основные правила международной торговли, она не предназначена для достижения других социальных целей. Поэтому проблема на самом деле заключается не в ВТО, а в отсутствии таких же влиятельных и эффективных организаций, всецело предназначенных для достижения этих самых социальных целей. На самом деле, самая главная проблема нынешнего мирового порядка заключается в том, что производство товаров личного потребления возобладало над социальным развитием, то есть перед обеспечением общественных благ.

И дело не только в том, что ВТО не предназначена для того, чтобы заниматься охраной окружающей среды, безвредностью пищевых продуктов, правами человека и правами рабочего класса, просто ее *modus operandi* (т.е. образ действия) не подходит для обеспечения общественных благ. Сила ВТО заключается в ее механизме принуждения выполнения правил, который страны согласны принять, поскольку они хотят получать выгоду от торговли. Они, однако же, не хотят принимать его в других областях. Возможно ли, чтобы Китай (который собирается вступить в ВТО) согласился на применение такого механизма в области прав человека? Могут ли теперь Соединенные Штаты нести ответственность за охрану окружающей среды?

Принудительное введение в действие согласованных правил не способствует достижению социальных целей, потому что у многих стран нет средств, чтобы обеспечить соответствие международным стандартам. Вместо того чтобы в принудительном порядке добиваться соответствия требованиям ВТО, значительно лучшим решением было бы обеспечить ресурсами беднейшие страны, что позволило бы им на добровольной основе принять эти требования. Возьмем детский труд. Взамен введения в действие правила ВТО о запрете детского труда, мы должны предоставить средства для обеспечения всеобщего начального образования. После этого мы можем требовать с тех, кто получает помощь, чтобы они искоренили детский труд за определенные сроки. Такой подход будет более эффективным, чем попытки принудить отдельные страны подчиниться требованиям правил ВТО.

Далее, для того чтобы принять во внимание обоснованные протесты, необходимо внести значительные изменения в правила ВТО. В некотором отношении ВТО страдает от своего успеха. Она является единственной международной организацией, правилам которой страны охотно подчиняются. Очевидно, что это делает ВТО слишком могущественной, поскольку ее правила, направленные в первую очередь на либерализацию торговли, претендуют на старшинство над внутренними регулятивными нормами, направленными на обеспечение других важных социальных ценностей.

Изменение «королевского» статуса ВТО должно идти в следующем порядке. Во-первых, если мы хотим избежать того, чтобы национальные интересы оказались на последнем месте, то порядок старшинства между законами ВТО и национальными законами должен быть изменен на обратный. При нынешнем порядке вещей ни одна страна не может ввести торговые санкции, чтобы заставить другую страну следовать ее стандартам, если импортируемый продукт физически такой же, как производимый в этой стране. Невозможен, например, запрет на импорт говядины, получаемой с использованием гормонов, если нет документов, подтверждающих отличие такого продукта от говядины, производимой внутри страны. Исключением является случай, когда существует международное соглашение, подписанное обеими странами. Но такие соглашения очень сложно заключить.

Я предлагаю такой порядок предпочтений изменить на обратный, т.е. следует позволить странам вводить в действие свои собственные, более высокие стандарты на импортируемые и произведенные внутри страны товары, *если только* спонсируемая ВТО группа экспертов не установит, что такие внутренние стандарты следует запретить или что они просто не нужны. В отличие от существующей системы, по которой страны с низкими стандартами по охране труда или окружающей среды не имеют никаких стимулов участвовать в переговорах по заключению международных соглашений, устанавливающих более высокие стандарты, новое правило восстановит равновесие между торговлей и другими ценностями, создавая, таким образом, стимулы к достижению соответствующих международных соглашений.

Во-вторых, ВТО, возможно, вышла за пределы своих полномочий, когда начала заниматься вопросами, касающимися прав на интеллектуальную собственность. Права на интеллектуальную собственность помогли превратить науку в бизнес, а бизнес, конечно же, мотивируется прибылью. Можно привести доводы в пользу того, что этот процесс зашел слишком далеко и создает препятствие решению важных для развивающегося мира задач. Сегодня, например, гораздо больше денег тратится на разработку косметики, чем на лечение тропических болезней.

Полномасштабное решение этой проблемы, которое требует создания новых стимулов для проведения исследований по разработке лекарств, необходимых развивающимся странам, находится за пределами возможностей ВТО. Но и ВТО должна пересмотреть степень своего участия в этом процессе. Патенты и защита авторских прав необходимы, но такая защита является ограничением для торговли. Насколько же оправданы такие ограничения? Расчеты дают совершенно разные результаты для технологически развитых стран, получающих прибыль от инновационной деятельности (и настаивающих на ее защите в рамках ВТО и с ее помощью), и для менее развитых стран, которые должны платить за использование нововведений. Менее развитые в технологическом отношении страны имеют все основания возмущаться нынешней позицией ВТО, касающейся связанных с торговыми аспектами прав на интеллектуальную собственность (*TRIPs*).

В-третьих, следует провести новые переговоры по ограничению инвестиций в области торговли (*TRIMs*), с тем чтобы предусмотреть в них определенную поддержку для внутренних предприятий малого и среднего бизнеса. Соглашения *TRIMs* разработаны таким образом, чтобы обеспечить равное игровое поле для иностранных и внутренних предприятий. Но в мире, где капитал может свободно перемещаться, это игровое поле имеет сильный крен в пользу международных инвесторов и многонациональных корпораций. И этот уклон соглашения *TRIMs* наделяют законным статусом и еще более усиливают.

Страны часто предлагают транснациональным компаниям налоговые льготы и другие преимущества, поскольку они должны конкурировать за привлечение иностранных инвестиций. Концессии тоже часто получаются за взятку. ВТО ни разу не пыталась рассмотреть эти проблемы, и до сих пор не существует никаких правил, направленных против такой деятельности транснациональных корпораций, представляющих опасность для стран, в которых они действуют.

В соглашениях *TRIMs* не учитывается, что это тот самый случай, когда надо поощрять внутренний средний и малый бизнес. Хотя средства для такого местного бизнеса (микрокредиты и более эффективное финансирование) должны предоставляться за рамками ВТО, для обеспечения условий для такой поддержки местного бизнеса необходимо также изменить и торговые правила.

Протестующие, желающие «сократить и потопить» ВТО, задушат курицу, несущую золотые яйца. И хотя нам следует решительно отвергнуть эти призывы, мы, тем не менее, должны принять во внимание законную и глубоко прочувствованную обеспокоенность критиков по поводу использования и распределения этих «яиц».

**© Project Syndicate, ноябрь 2001**

# Мікрафон – оперная недарэчнасць

## Беларускую оперную групу чакаюць цяжкія выпрабаванні

*Для многіх паход у оперу ёсць значнай падзеяй толькі таму, што ходзяць яны туды рэдка. Калі так, то дужа цяжка дылетантам ацаніць, што ўяўляе сабой нашая опера (паслухаеш: прыгожа – і ўсё). А вось што мяркуе наконт таго, якое месца беларуская опера займала ў негалосным рэйтынгу нацыянальных опер у колішнім СССР і як яна выглядае на гэтых абшарах зараз, мастацтвазнаўца Юлія Андрэева.*


Фота IREX/ProMedia

У наступным годзе оперны тэатр стане на рэканструкцыю

– Калі мы ўсе тут неяк існавалі за Саветамі, Масква лічыла, што, акрамя тамтэйшай оперы, усё астатняе – гэта зэра без палачкі. Такая была сістэма. Нават Марыінская опера ў Санкт-Пецярбургу, тадышнім Ленінградзе, лічылася другагатункавай у параўнанні з маскоўскім Вялікім тэатрам. Масква яшчэ магла пагадзіцца з легендай, што Украіна — гэта край спевакоў. Маўляў, там прырода сама па сабе нараджае прыгожыя галасы. Смешны міф, але самі ўкраінцы тады ў гэты міф верылі. У кіеўскай оперы было некалькі народных артыстаў СССР, якія спявалі на ўрадавых канцэртах у Маскве і рабілі Украіне рэпутацыю песеннага краю. Напрыклад, Салаўяненка заўжды спяваў на гэтых канцэртах украінскія песні, бо Брэжневу яны падабаліся. Мы гэта бачылі па тэлевізары. І толькі пазней мы даведаліся, што Салаўяненка быў дасканалым майстрам італьянскага бельканта, але ў той час гэта нікому не было патрэбна – ні ў Маскве, ні ў Кіеве. А Беларусь ніколі не лічылася песеннай краінай. Лічылася, што клімат у нас дрэнны, а беларусы скрозь вяскоўцы, бульбашы. Мінск быў месцам ссылкі для непаслухмяных і палітычна падазроных спевакоў. Аднак сярод іх было шмат выдатных артыстаў. Можа, таму ў 80-ыя гады ў нас была цудоўныя опера. Ды і ў 60-ыя гады таксама. Быў Бабій – тэнар сусветнага маштабу. Быў выдатны бас Сухін – лаўрэат першай прэміі вельмі аўтарытэтнага Міжнароднага конкурсу ў Сафіі. Пазней была Гулегіна...

***— А ці ўдалося ім перарасці тутэйшую вядомасць?***

– У Маскве іх ніхто не ведаў. Аднак Гулегінай удалася зрабіць бліскучую міжнародную кар'еру. Яна вучылася ў Адэсе, але як оперная зорка паўстала і вырасла менавіта тут. Пачынала з ролі другога хлопчыка ў «Чароўнай флейце», а неўзабаве спявала галоўныя ролі не толькі ў Мінску, але і ў лепшых тэатрах Еўропы. Цяпер гэта сусветная зорка з беларускім грамадзянствам. Ёй пашанцавала. Гадоў 15 таму заходнія імпрэсарыю шукалі выдатнае моцнае сапрана на ролю Абігаль у оперы «Набука». А Гулегіна жыла тады ў звычайным інтэрнаце, пазванілі і адшукалі яе праз вахцёрку. Даведаўшыся пра тое, міністэрства культуры адразу дало артыстцы кватэру. Потым яе сталі запрашаць і на іншыя пастаноўкі, пераважна ў Італію. Запрасілі, у прыватнасці, на ролю Амеліі ў «Балі-маскарадзе». Гулегіна вывучыла партыю па-італьянску, а ў Мінску гэту оперу ставілі па-руску. Гулегіна таксама павінна была спяваць у гэтым спектаклі, аднак адмовілася спяваць «Баль-маскарад» па-руску. Быў страшэнны скандал, і Гулегіна мусіла з'ехаць. Гэта быў, здаецца, 1988-ы год. А ўжо з 90-га ўсе італьянскія оперы, якія ішлі ў нашым тэатры па-руску, паступова пераводзілася на італьянскую мову.

***— Чаму менавіта ў гэты час?***

– Раней усё дыктавалася ідэалагічнымі меркаваннямі. Сталін, а за ім і іншыя «правадыры» лічылі, што опера мусіць быць зразумелай народу, і таму трэба ўсё спяваць па-руску. Дарэчы, у цэлым свеце былі толькі дзве такія краіны – СССР і фашыстоўская Германія. Пры Гітлеры ўсе оперы ішлі па-нямецку. Як толькі камуністычныя забабоны былі скрэсленыя, опернае кіраўніцтва стала мысліць зусім іншымі меркамі. У першую чаргу – эстэтычнымі. Дый потым, ужо з пачатку 90-ых нашая опера пачала выязджаць за мяжу. Першыя гастролі беларускай оперы, памятаецца, былі ў Іспаніі ў снежні 1991 – студзені 1992 года. Балет яшчэ пры Саветах гастраляваў досыць шырока. У той час ён карыстаўся яшчэ болей высокай рэпутацыяй, чым сёння. А опера пры Саветах была Папялушкай. І калі опера, нарэшце, стала выязджаць, расейшчына стала перашкодай... Ну, «Барыса Гадунова» ці «Князя Ігара» трэба, натуральна, спяваць па-руску. У Нью-Йорку і Мілане іх таксама спяваюць па-руску. Але італьянскія оперы па-руску – гэта, з пункту гледжання еўрапейцаў, чыстая недарэчнасць. Што праўда, тут паўстае адна праблема. Каб разумець сюжэт оперы, спяванай па-італьянску, нашаму чалавеку трэба дэталёва ведаць лібрэта. У развітых краінах гэтую праблему вырашылі: там папросту пускаюць гэтак званы бягучы радок лазерам. У нас грошы трацяцца на нешта іншае.

***– А за Саюзам беларускіх опер шмат было?***

– Так. І ставілася іх непараўнальна болей, чымсьці зараз. Раз на два гады дакладна. Як толькі нехта з беларускіх кампазітараў пісаў оперу, яна адразу трапляла на сцэну. Многія з тагачасных беларускіх опер пісаліся на рускамоўныя лібрэта. Адна з апошніх – «Майстар і Маргарыта» Глебава. Усе чатыры оперы Картэса рускамоўныя. У тым ліку тая опера, што цяпер ідзе ў тэатры («Візіт дамы»), і тая, якую яны плануюць да пастаноўкі («Юбілей» паводле апавядання Чэхава).

***— У Оперным, кажуць, рыхтуюць усяго толькі другую беларускамоўную оперу — «Пані Ядвіга» ў пастаноўцы мастацкага кіраўніка Купалаўскага тэатра Валерыя Раеўскага?***

– Беларускамоўныя оперы былі і раней – нават у 30-40-ыя гады. «Пані Ядвіга» – гэта другая опера Уладзіміра Солтана. Першая ягоная опера – «Дзікае паляванне караля Стаха» – цяпер ідзе раз на год. Паўнавартаснага жыцця не мае.

***— Але ж росквіт беларускай оперы збольшага не залежыць ад наяўнасці беларускамоўных опер.***

— Сапраўды, оперныя тэатры паўсюль маюць за аснову класічны рэпертуар. Галоўная праблема беларускай оперы – не ў адсутнасці добрых артыстаў. Яны ёсць – і сапрана, і меца-сапрана, і барытоны, і літаральна ва ўсіх групах галасоў. Наша опера вельмі слабая па рэжысуры: галоўнага рэжысёра няма не помню колькі. Няма добрага рэгулярна працуючага дырыжора. Але ў нас вельмі добры аркестр, а хор – адзін з найлепшых, які я ведаю. У нас лепей хор, чым у «Мэт», то бок у «Метраполітан», якая лічыцца на сёння самай лепшай операй у свеце. У нас тут палова людзей кансерваторыю скончылі, а там — невядома хто.

***— А што да рэпертуарнай палітыкі і абнаўляльнасці і частаты прэм'ераў?***

— Гледзячы з чым параўноўвацца. Я нядаўна з Варшавы. Мяне там жудасць узяла. Не была ані разу ў оперы. Проста не было чаго глядзець. Тамтэйшыя аматары сталі пытацца, што ідзе ў нас у оперы. Я распавяла, дык у іх вочы на лоб павылазілі: гэта ж файна, столькі операў Вердзі, Моцарта, Чайкоўскага! Аднак у параўнанні з лепшымі замежнымі опернымі тэатрамі наш рытм прэм'ераў не ўражвае. А найгорш, многія з іх не адпавядаюць чаканням, як тое было з «Барысам Гадуновым».

***— Беларускіх оперных спевакоў і музыкаў вельмі шмат працуе за мяжой. Хто і стала, хто і часова. Ад чаго такая цякучка?***

— Гэта заўсёды так было, гэта натуральна. Цяпер, праўда, ад'язджаючых трохі паболела – галодныя ўсе. І калі ёсць магчымасць паехаць у Еўропу ці, прыкладам, пальчыкам зробяць з Марыінскага тэатра, чаму з гэткай мажлівасці не скарыстаць? У Санкт-Пецярбургу, прыкладам, шмат нашых спевакоў, якія на агульным фоне выдатна выглядаюць.

***— Многія апасаюцца, што хутка, калі будынак Опернага стане на рэканструкцыю, ён будзе вымушаны пераехаць у Палац Рэспублікі.***

– Я цалкам падзяляю гэтыя апасенні. Уся трупа можа разбегчыся. Таму што для спевака творчы бок важней за матэрыяльны. У гэтым недарэчным Палацы дрэнная акустыка, шкодная для галасоў. У тэатры таксама не вельмі добрая. Прычына ў тым, што гэтыя будынкі праектаваліся людзьмі, якія не вельмі добра разумеліся на спецыфіцы оперы. Людзі, нават з вышэйшай адукацыяй, часта не разумеюць, што ў оперы няма ніякіх мікрафонаў. Майму тату аднойчы здарылася гутарыць з двума інтэлігентнымі кабетамі, якія ахалі: «Магамаеў, Магамаеў!» Ён ім кажа: «Што вы са сваім Магамаевым? Яго ж з трэцяга рада не чуваць!» А яны: «А мікрафоны на што!?».

***— Дык што, у Палацы квіткі, можа так стацца, будуць прадаваць толькі на якіх 5 радоў?***

– Людзі не думалі на гэтую тэму. У Еўропе і Амерыцы апошнім часам будуецца мноства оперных тэатраў і канцэртных залаў на 4-5 тысяч месцаў. Але акустыка пастаўленая так, што чутно ўсюды. Да ўсяго ў Палацы Рэспублікі няма нармалёвай сцэны, аркестравай ямы, рэпетыцыйных памяшканняў. Беларускай сталіцы патрэбны новы будынак опернага тэатра. Дый новы будынак філармоніі. Тым больш, што людзі ахвотна ходзяць у оперу і на канцэрты.

***— Дарэчы, ці часта вам даводзіцца бачыць там каго з уладных колаў?***

— Шушкевіч калісьці хадзіў; вельмі любіў сур'ёзную музыку. Дарэчы, у яго дачка – кампазітар. Цяперашнія ўлады – не. Нават колішняга міністра культуры Сасноўскага ў канцэртах не бачыла ніколі. А вось Пуцін на буйныя прэм'ерныя падзеі ходзіць.

**Гутарыў Кірыла ПАЗЬНЯК**

**ТЭАТР**

## Новы «КІМ» – прэм'ера ў Купалаўскім

У пятніцу, 9 лістапада, на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы адбылася прэм'ера спектакля «КІМ», пастаўленага рэжысёрам Аляксандрам Гарцуевым па п'есе Аляксея Дударава.

Жанр твора — крымінальная меладрама, а падзеі ў «КІМе» сучаснай рэчаіснасці, чым Аляксей Дудараў досыць нечакана змяніў гістарычнай тэматыцы сваіх апошніх твораў («Князь Вітаўт» і «Чорная панна Нясвіжа»). Новы спектакль – гэта гісторыя аб каханні паміж напаўкрымінальным бізнэсоўцам, якога грае Андрэй Кавальчук, і юнай дзяўчынай, ролю якой даручылі Святлане Зелянкоўскай (Барбара ў «Чорнай панне Нясвіжа»). Шчырае каханне маладзіцы да бізнэсоўца з цягам часу мяняе ўвесь ягоны светапогляд, і з чалавека, які напоўную згубіў веру ў чалавечыя пачуцці, ён паступова «ажывае».

Са словаў рэжысёра спектакля Аляксандра Гарцуева, дэкарацыі і асвятленне адмыслова падбіраліся ў кантрасце да духу самаго спектакля: холад металу, пластыка і лінолеума паступова з развіццём дзеі напаўняюцца чалавечымі пачуццямі ад галоўных герояў.

«КІМ» – гэтую назву спектаклю далі ініцыялы ягонага галоўнага героя – Каралёва Ігара Міхайлавіча. І разам з тым гэта імя шаснаццацігадовага хлопчыка Кіма, якога, дарэчы, грае ягоны сапраўдны аднагодак, выпускнік тэатральнага класа адной з мінскіх школаў Мікіта Гузоўскі.

**Алена ЛАБАНАВА**

**МУЗЫКА**

## Канцэрт пры зачыненых дзвярах

Акустычны канцэрт гурта *NRM* у ДК трактарнага завода выклікаў ажыятаж. У першую чаргу былі раскупленыя квіткі коштам 10 тысяч рублёў, за якія выдавалася пасля канцэрта майка з эмблемай гурта. Жадаючых аказалася значна болей за колькасць месцаў у зале. Слухаць канцэрты *NRM* седзячы, тое ж самае, што танчыць з завязанымі нагамі. А вось адміністрацыя ДК гэтага не ведала, бо ніяк не хацела пускаць у залу на стаячыя месцы, спасылаючыся, што такі канцэрт прадугледжвае неабходнасць сядзець. Нават прэса апынулася пры зачыненых дзвярах.

Трэба адзначыць, што канцэрт быў прыроўнены да пэўнага кшталту апазіцыйнага мітынгу ў тым сэнсе, што ахоўвалі будынак міліцыянты з Партызанскага РАУС, а ўсіх слухачоў на ўваходзе ў залу чакаў персанальны агляд. Абураным журналістам, якія засталіся па-за канцэртам, галоўны адміністратар паведаміў для суцішэння, што праўдзе яшчэ адзін канцэрт гэтага гурта. Для мноства прыхільнікаў *NRM* не патрапіць на канцэрт раўназначна згубе добрага настрою і спакою на месяц. Уявіце расчараванне тых, хто прыехаў з іншых гарадоў...

**Ірына ТОЎСЦІК**



«Дон Жуан» В.Моцарта



«Паяцы» Р.Леанкавала

